# Суд над бальшавіцкімі злачынствамі

12-га чэрвеня сёлета ў Мюнхэн прыбыла Камісія Амэрынканскага Кангрэсу (парляманту), заданьнем якой было ўстанавіць на падставе аўтарытэтных сьветкаў і дакумэнтаў, якімі спосабамі бальшавікі падпарадкавалі сабе рад народаў і якімі мэтадамі яны карыстаюцца, каб народы гэтыя ўтрымаць пад сваім пانаваньнем.

Камісія гэтая, пад старшынствам кангрэсмэна сп. Кэрстэна, складалася зь 9-цёх кангрэсмэнаў, прадстаўленых абедзьвюма фракцыямі (рэспубліканцаў і дэмакратаў) Амэрыканскага Кангрэсу і каля дзесятка асобаў тэхнічнай і дапамаговай сілы, у тым ліку аднаго выдатнага амэрыканскага адваката сп. Мэк Тайгэ і ведамага спэцыялістага ў нацыянальным пытаньні СССР сп. О'Конара.

28-га чэрвеня ў ваднэй з заляў амэрыканскага консуляту ў Мюнхэне камісія распачала сваю працу дапытваньнем пры адкрытых дзьвярах. Вялікая заля была перапоўненая публікай — дзесяткі прадстаўнікоў ад розных газэтаў і прэсавых агенцтваў прыбылі зь фільмаапаратамі. Ува ўсіх кутох і баках залі былі расстаўленыя фотаапараты й пражэктары.

Аўтарытэтнымі сьветкамі ў беларускай справе былі прызнаныя камісіяй: прэзыдэнт Рады БНР сп. інж. Мікола Абрамчык, як сьветка ў справе бальшавіцкай агрэсіі супраць БНР і бальшавіцкай палітыкі ў Беларусі наагул; 10 іншых Беларусаў мелі сьветчыць аб бальшавіцкай палітыцы ў розных дзялянках культурнага, гаспадарскага і палітычнага жыцьця Беларусаў. Адылі з прычыны вялікага наплыву сьветкаў з боку іншых народаў Камісія змушаная была скарачваць іхную колькасьць. Дзеля гэтага зь беларускага боку былі апытаныя 1-га ліпеня толькі прэз. Абрамчык, праф. Ліманоўскі і трэйці сьветка быў апытаны пры закрытых дзьвярах, які зь некаторых прычынаў не пажадаў абвяшчаць свайго прозьвішча.

Ніжэй падаём паказаньні прэз. Абрамчыка паводля запісаў карэспандэнта «Бацькаўшчыны».

Да стала Камісіі падходзіць прэз. Абрамчык із сваёй перакладальніцай на ангельскую мову сп-няй Г. Ганчарэнкай, складаюць перад старшынёй Камісіі прысягу, што будуць гаварыць праўду. Тады адвакат Мэк Тайгэ задае пытаньне:

Ці гэта адказвае праўдзе, што Вы называецеся Абрамчык? —

**Адказ:** — Так.

**Пытаньне:** — Імя Вашае Мікола? — Так.

— Вы радзіліся ў Сычавічах? — Так.

— Вы пражывалі ў Беларусі да 1924 году ў пяці кілямэтрах ад савецка-польскай граніцы на польскім баку? — Так.

— Вы скончылі ў Чэхаславаччыне палітэхніку, эканамічны факультэт і філязафічны факультэт унівэрсытэту? — Так.

— Раскажэце нам, калі ласка, аб падзеях у Беларусі ў 1917—1920 гадох, як арганізавалася Беларуская Народная Рэспубліка і што спрычынілася да яе ўпадку?

Прэз. Абрамчык адказвае:

— Гады 1917—1920 былі гадамі напружанага змаганьня беларускага народу за рэстаўрацыю свае сувэрэннае дзяржавы. Зь мінулага свайго дасьветчаньня Беларусы пераканаліся, што дабрабыт іхнага жыцьця ня можа быць ім забясьпечаны, пакуль яны самі ня будуць гаспадарамі свайго краю. Лютаўская рэвалюцыя 1917 году кінула лёзунгі: свабода, роўнасьць, братэрства, самавызначэньне народаў. У Беларусі, як, пэўне-ж, і ў іншых частках расейскае імпэрыі, народ адчуў сябе ўзапраўды вольным. У такой атмасфэры і беларускі народ пачаў дыскутаваць над пытаньнем, якую яму выбраць форму ўлады.

Па гарадох, мястэчках, сёлах бесьперапынна адбываліся мітынгі, арганізаваныя рознымі партыямі й неабмежаныя ў найменшай ступені свабодай слова. Агітацыя праводзілася як за справы сацыяльна-палітычнага парадку, гэтак і дзяржаўнага.

Беларускі Нацыянальны Камітэт у паразуменьні з усімі існуючымі ў Беларусі палітычнымі партыямі й арганізацыямі бярэ на сябе ініцыятыву скліканьня Ўсебеларускага Нацыянальнага Кангрэсу ў Менску, заданьнем якога было выявіць агульную волю беларускага народу і выбраць сабе найбольш адпаведную форму палітычнага й дзяржаўнага ладу.

Падрыхтоўка да выбараў дэпутатаў на Ўсебеларускі Нацыянальны Кангрэс, як і самыя выбары адбываліся пры неабмежаванай свабодзе для кажнае палітычнае партыі ўключна з камуністымі.

18 сьнежаня 1917 году ў Менскім Гарадзкім Тэатры распачаўся Першы Ўсебеларускі Кангрэс пры ўдзеле 1.872 дэпутатаў, якія прадстаўлялі ўсе правінцыі этнаграфічных беларускіх земляў і выяўлялі ўсе адценьні палітычных настрояў. Камуністыя, здабыўшыя толькі 42 мандаты з агульнага ліку 1872, зразумела, не маглі разьлічваць на правядзеньне якіх-небудзь сваіх пастановаў. Дык на помач ім прыйшлі расейскія камуністыя, якія ўжо пасьпелі замацавацца ў Расеі. Сталін, тагачасны камісар у справах «нацыянальных мяншыняў», у паразуменьні з Троцкім накіроўвае ў Менск дывізію сібірскіх стралкоў, узброеных танкамі, каб разагнаць Усебеларускі Кангрэс і апанаваць Менск.

Ці гэтая дывізія была зьнятая з фронту, ці высланая з Расеі, мне ня ведама. Фактам адылі ёсьць, што інтэрвэнцыя гэная была звонку і што войска гэнае складалася ня зь беларускага элемэнту. Збройнага нападу на Ўсебеларускі Кангрэс сібірская дывізія даканала 30 сьнежаня 1917 году пасьля таго, калі Кангрэсам была прынятая рэзалюцыя вялізарнай большыняй, бо толькі супраць 50 галасоў, аб ствараньні ў этнаграфічных межах Беларусі незалежнай беларускай дзяржавы.

Разагнаны бальшавікамі сілаю аружжа ўсенародны Беларускі Кангрэс на другі дзень зьбіраецца нанава ў памяшчэньні чыгуначнага дэпо, у ліку каля 1700 дэпутатаў, і, пад аховаю чыгуначных служачых і работнікаў, прадаўжае сваю працу. 31 сьнежаня быў ўканстытуаваны заканадаўчы ворган у ліку 71 дэпутата, выбраны спасярод прысутных на Кангрэсе, які потым атрымаў назоў Рады Реларускай Народнай Рэспублікі. Прэзыдыюму Рады БНР Кангрэс перадаў свае **неабмежаваныя паўнамоцтвы аж да наступных вольных выбараў у Беларусі.**

Рада БНР падрыхтоўвае збройныя сілы і 19-га лютага выганяе расейска-бальшавіцкія войскі зь Менску на ўсход аж да Бярэзіны. На ачышчанай ад бальшавікоў тэрыторыі ўстанаўліваецца ўлада БНР. 21 лютага быў сфармаваны першы ўрад БНР.

Да супрацоўніцтва з урадам былі пакліканыя прадстаўнікі ад нацыянальных мяншыняў Беларусі — Жыды, Расейцы, Палякі й Летувісы, якія атрымалі міністэрскія партфэлі, кажны ў справах свае нацыянальнасьці. 25 лютага Немцы, рушыўшыся з фронту, занялі тагачасную сталіцу Беларускай Народнай Рэспублікі — Менск. Яны раззброілі беларускія вайсковыя фармацыі, але на іншыя прэрагатывы ўраду і Рады БНР не пасягалі.

Падчас наступных 10 месяцаў Рада БНР выдала тры ўстаноўчыя граматы асноўных законў Беларускай Народнай Рэспублікі. Урад навязаў дыпляматычныя дачыненьні з радам сувэрэнных дзяржаваў. Вільгэльмаўская Нямеччына ўрад БНР вызнавала дэ факто. З эвакуацыяй Немцаў у сьнежані 1918 году тэрыторыя Беларусі становіцца арэнай змаганьня збройных сілаў трох народаў: Беларусаў з бальшавіцка-расейскай арміяй і Палякаў з бальшавікамі. Змаганьне гэтае цягнецца аж да самага канца 1920 году. За гэты час урад БНР быў змушаны некалькі разоў эвакуавацца ў саюзную з БНР Летуву ды вяртацца ўзноў на Беларусь. Гэта быў пэрыяд зьменных уладаў на Беларусі ў залежнасьці ад вайсковых удачаў праціўнікаў.

Урад БНР на працягу гэтых трох ваенных гадоў уладаў дзьвюма-трэйцімі тэрыторыі Беларусі на працягу прыблізна 11 месяцаў і меншымі часткамі, часамі толькі паветамі, рэшту часу. Наагул пэрыяд 1917—1920 гадоў, як пэрыяд змаганьня беларускага народу за рэстаўрацыю свае незалежнае дзяржавы, можна зрэзюмаваць наступна:

1. Беларуская Народная Рэспубліка паўстала з волі беларускага народу і фактычна ім абаранялася.

2. Першы Ўсебеларускі Кангрэс быў скліканы ў вабставінах поўнай свабоды і быў выяўленьнем запраўднай волі беларускага народу.

3. Прычынай упадку БНР была збройная інтэрвэнцыя звонку, адпору якой беларускі народ ня быў у стане даць з прычыны непамернай перавагі фізычнай сілы праціўніка і адсутнасьці хоцьбы найменшай дапамогі з боку заходня-дэмакратычнага сьвету.

**Запытаньне кангрэсмэна Файна:**

— Скажыце, калі ласка, у якім дакладна часе ўрад БНР страціў цалком уладу на тэрыторыі Беларусі?

**Адказ:**

— Трэба лічыць пачатак лютага 1921 году, калі пасьля падпісаньня мірнага дагавору бальшавікоў з Польшчай у Рызе, бальшавіком, звольніўшым сваю армію з польскага фронту, удалося канчальна разьбіць войскі БНР Слуцкае акругі, якія налічвалі каля 10.000 жаўнераў, а таксама зьліквідаваць драбнейшыя паўстанцкія фармацыі на поўначы Беларусі.

**Пытаньне кангрэсмэна Файна:** — Ці ўрад БНР зьвяртаўся за помаччу да заходня-эўрапэйскіх дзяржаваў, у тым ліку і да ЗША?

**Адказ:** — Так. Урад БНР ад дня фармальнага разрыву дзяржаўнай сувязі з расейскай імпэрыяй (25 сакавіка 1918 г.) зьвяртаўся да сувэрэнных народаў цэлага сьвету з просьбай прызнаць БНР і ўстанавіць з урадам БНР дыпляматычныя дачыненьні.

**Пытаньне:** — Якія былі вынікі?

**Адказ:** — Тры балтыцкія дзяржавы, Украіна, Фінляндыя прызналі БНР дэ юрэ адразу, Турэччына, Чэхаславаччына, Аўстрыя, пазьней рэспубліканская Нямеччына пачалі вызнаваць БНР дэ юрэ адна за аднэй. Да канца 1920 году урад БНР вызнавалі дэ юрэ 12 сувэрэнных дзяржаваў. Дэ факто з урадам БНР мела дачыненьні большыня эўрапэйскіх дзяржаваў. З Францыяй і Швайцарыяй урад БНР меў падпісаныя гандлёвыя дагаворы.

Прэз. Абрамчык паказвае тоўстую папку сшытых папераў міністэрства замежных справаў БНР з 1918—1920 гадоў, зазначаючы, што ў гэтых актах ёсьць лісты і ноты амаль ад усіх урадаў ці дыпляматычных місіяў заходня-эўрапэйскіх дзяржаваў да ўраду БНР, зь якіх вынікае, што заходня-эўрапэйскія дзяржавы мелі жывы кантакт з урадам БНР. Напасьледак ён сьцьвярджае:

— Але матарыяльнай помачы ўраду БНР у вайне за незалежнасьць Беларусі не аказала **аніводная** дзяржава.

**Пытаньне кангрэсмэна Файна:** — Ці ўрад БНР зьвяртаўся за такой помаччу да ўраду ЗША?

**Адказ:** — Так. У гэтых вось дакумэнтах (паказваючы на папку) ёсьць каля 15 лістоў ад дыпляматычнай місіі ЗША на Прыбалтыку.

Далей прэз. Абрамчык раскрывае папку і просіць сваю сакратарку зачытаць адзін ліст шэфа Дыпляматычнай Місіі ЗША ў Рэвэлі шэфу Беларускай Дыпляматычнай Місіі ў Рызе з адмоўным адказам на ягоную просьбу аб помачы беларускім ахвіцэрам і жаўнерам.

**Пытаньне:** — Ці былі якія адказы непасрэдна ад ураду ЗША?

**Адказ:** — У 1920 годзе на мэмарыял ураду БНР быў адказ ад прэзыдэнта Вільсона, у якім ён выказваў сымпатыі ўраду БНР і абнадзеіваў яго ў помачы. Помач гэтая ня прыйшла, было за позна.

**Пытаньне:** — Ці ў Вас ёсьць гэты дакумэнт?

**Адказ:** — Не. Гэны дакумэнт, здаецца, быў у ваддзеле Беларускага Архіву пры чэхаславацкім міністэрстве замежных справаў, які ў 1946 годзе трапіў у рукі бальшавікоў. У 1951 годзе, нешта ў лістападзе месяцы, бальшавікі зацытавалі гэны дакумэнт у менскай газэце «Зьвязда».

**Пытаньне:** — Дзеля чаго яны гэта зрабілі?

**Адказ:** — Я маю ўражаньне, што сярод беларускага насельніцтва, асабліва сярод беларускіх партызанаў пачалі пашырацца слухі аб магчымай падтрымцы Амэрыканцамі цяперашняга ўраду БНР. У «Звязьдзе» таму быў зьмешчаны на цэлую балону артыкул, мэтай якога было паказаць, што, моў, намеры Амэрыканцаў дапамагчы ўраду БНР ня новыя, але што з гэтага нічога ня выйдзе, бо калі тады яшчэ пралетарыят пад кіраўніцтвам Леніна й Сталіна расправіўся з «бандамі» БНР, тым больш лягчэй цяпер зь імі расправіцца. Такі прыблізна сэнс быў гэнага артыкулу.

**Пытаньне:** — Ня маеце яго пры сабе?

**Адказ:** — Не, але я магу яго Камісіі пераслаць.

**Пытаньне:** — Што дзеілася, як бальшавікі апанавалі тэрыторыю Беларусі?

**Адказ:** — Пасьля Рыскага міру бальшавікі прыступілі да арганізацыі БССР, якую яны абвесьцілі яшчэ падчас вайны — 1 сьнежаня 1919 году ў Смаленску. Але цяпер «рэалізаваная» гэтая БССР з аднэй пятнаццатай часьці тэрыторыі Беларусі выглядала залішне карыкатуральна. Партызанцкі рух у Беларусі ня спыняўся. У 1924 годзе бальшавікі пашыраюць больш чым у тры разы тэрыторыю БССР і даюць Беларусам большыя нацыянальна-культурныя і палітычныя канцэпцыі. Трэба прызнаць, што ад гэтага часу аж да 1929-30 гадоў БССР запраўды напаміналa сабой нешта зусім блізкае да беларускай дзяржавы. Былі навет сфармаваныя дзьве дывізіі беларускае арміі.

**Пытаньне:** — А што сталася пасьля гэных гадоў?

(Заканчэньне на 4-ай балоне)

# На пазыцыях рэальнай палітыкі

(Заканчэньне зь 1-ай балоны)

колькі высоўваюцца прэтэнсіі на заходня-беларускія землі.

Ад выжэй прадстаўленай канцэпцыі мала адбягае і палітыка ў дачыненьні да Беларусі польскіх эндэкаў із «Строньніцтва Народовага». Будучы ў сваей сутнасьці палітыкай такой-жа поўнай ігнаранцыі й нэгацыі беларускага пытаньня, яна розьніцца ад першай хіба толькі тым, што, пры эвэнтуальным падзеле Беларусі і Ўкраіны між Польшчай і Расеяй, дамагаецца для Палякаў большай часьці ўсходніх тэрыторыяў, чымся ў граніцах 1939 году, ды абнадзейвае сябе за прыкладам Рамана Дмоўскага тым, што гэты падзел Беларусі і Ўкраіны створыць асновы для прыязнага сужыцьця Польшчы з Расеяй.

За часоў незалежнае Польшчы сярод польскага грамадзянства ня было бадай што ніводнага спрэцызаванага палітычнага кірунку, які-б ішоў трохі дадалей за нэгацыю беларускага пытаньня і высоўваў нейкую пазытыўную і канструктыўную праграму ў беларускіх справах. Навет польскія камуністыя былі згодныя із санацыяй, з эндэцыяй і з усякімі іншымі палітычнымі плынямі тагачаснай Польшчы ў іхнай нэгацыі беларускага нацыянальнага пытаньня.

Затое цяпер, пасьля апошняй вайны, у некаторых колах польскае эміграцыі зазначаюцца выразныя зьмены на лепшае. Зазначаюцца тэндэнцыі пакончыць з дасюлешняй нярэальнай палітыкай у дачыненьні да Беларусаў і перайсьці на пазыцыі палітыкі рэальнай. Такія тэндэнцыі выступаюць у Палякаў, згуртаваных вакол лёнданскага часапісу «Ідзэмы», «Дзеньніка Чыкаговскага», а асабліва сярод групы Мікалайчыка і ягонага «Польскага Строньніцтва Людовага». Гэтая апошняя група, якая сярод польскае палітычнае эміграцыі, а перадусім у вачох адказных палітычных дзейнікаў Захаду мае не малую ўдзельную вагу, вызнае, як ведама, лінію Кэрзона і выказваецца за незалежнасьць Беларусі ў ейных этнаграфічных межах. Аб палітычнай плятформе гэтае групы можа дастаткова сьветчыць артыкул «Між мэгаломаніяй і рэчаіснасьцю», зьмешчаны ў № 22 за сакавік 1954 г. часапісу «Наш Знак», што выдаецца сябрамі і прыхільнікамі гэтае групы ў Швэцыі. Аўтар артыкулу, ён-жа і сябра Рэдакцыйнай Калегіі, В. Собчык палемізуе з «Адкрытым лістом да сяброў і сымпатыкаў Строньніцтва Народовага» Андрэя Гертыха, ведамага эндэцкага дзеяча й публіцыстага. Ніжэй прыводзім даўжэйшы адрывак з гэтага артыкулу, які датычыць беларускага пытаньня.

«Нельга згадзіцца з пастулятамі сп. Гертыха ў справе ўпарадкаваньня Сярэдня-Ўсходняй Эўропы, а Расеі ў васаблівасьці. Аўтар, засланяючыся дэмагагічным аргумэнтам, што стаіць непахісна на становішчы «праводжаньня ўзапраўды незалежнай польскай палітыкі», прапагуе адбудаваньне «Польшчы Дмоўскага» — зь Дзьвінскам па Бярэзіну — значыцца зь Менскам, Магілёвам, Мозырам і — з Каменцам Падольскім, і гэта пры падтрыцы вялікай Расеі, а коштам народу ўкраінскага й беларускага. Думку разьбіцьця Расеі шляхам пакліканьня да жыцьця незалежных, нацыянальных дзаржаваў, уважае за шкодную й антыпольскую і інсьпіраваную коламі вялікага капіталу?! Ня ведама чаму сп. Гертых уважае, што паўстаньне нацыянальных дзяржаваў на прасторы СССР будзе «нямецкім уладжаньнем» гэтага прастору (!), а «вугольным каменем» гэтай камбінацыі нямецкай «будзе вольная Ўкраіна»?

Перадусім, «незалежная палітыка» сп. Гертыха (хаця-бы навет клала ў свае падваліны прыказаньні Дмоўскага) ёсьць палітыкай згубы, мэгаляманіі, пазбаўленай звычайнага рэалізму, палітыкай рэакцыйнай, вядучай няўхільна да — як хоча аўтар — «Губэрнатарства». Стаўляньне контра кажнаму і ўсім — каб упакаваць да «Польшчы Дмоўскага» амаль столькі іншых нацыянальнасьцяў, што самых Палякаў — ня толькі пазбавіць нас у сьвеце прыяцеляў, але ськівуе супраць нас тыя сілы, якія будуць дзяліць «бяз згоды сп. Гертыха» карту Эўропы. Заданьнем польскай палітыкі зьяўляецца здабыць гэтыя сілы, **абрабляць іх ня ў духу падтрыманьня «імпэрыялістычных жаданьняў» на Ўсходзе, але да канчатковага прызнаньня нам граніцы Одра-Ніса.** Чужыя народы заўсёды і ўсюды закідаюць нам «імпэрыялізм» і маюць да некаторай меры рацыю, бо хаця-б бралі толькі для прыкладу лёзунгі «незалежнай палітыкі» сп. Гертыха — цьверджаньні іхныя ня будуць галаслоўнымі.

Далей: чаму вольная Ўкраіна ці Беларусь мае быць нямецкім сатэлітам? Якія будуць гэтыя дзяржавы — у вялікай, а можа ў выключнай меры будзе залежыць **ад нас самых, ад Палякаў!** Кампраміс і зычлівасьць з боку Польшчы могуць народы гэтыя схіліць да нас і стварыць зь іх саюзьнікаў супраць вялікай Расеі і Нямеччыны, якія — як паказала гісторыя — аднолькава гэтыя тры славянскія народы ўціскалі й нішчылі... Аслабіўшы такім спосабам Расею, яшчэ яна ў ніякім выпадку ня будзе зьнішчаная (сп. Гертых лішне перасольвае, страшучы сьвет дробнымі дзяржавамі на Сібіры і кітайскім смокам), надалей астанецца яна магутнай дзяржавай, якая будзе класьці грэблю перад залівам жоўтай расы. Напасьледак, як прызнае сам аўтар, справа кітайская ёсьць справай усей Эўропы, а навет сьвету.

Спадар Гертых, стала паклікаючыся на Дмоўскага, зусім не заўважае зьменаў, якія даканаліся на Ўсходзе. Перадусім: **поўнае нацыянальнае ўсьведамленьне, гон да незалежнага быту** і г. д. з гары асуджае канцэпцыі зь перад першай сусьветнай вайны на няўсьпех. Сьвет пайшоў далей, а Дмоўскі ня быў сьветкам пераменаў апошніх некалькінаццаці год.

Маем у лягеры санацыі падобных мэгаляманаў ці проста непаважных фантастых (напрыклад «Кадрувка» палк. Чарнецкага), якія ня толькі перасоўваюць граніцы будучай Польшчы на Днепр, але зьбіраюцца ўпарадкаваць «уладу» ў самой Маскве! Нікому гэтак не залежыць на гэтым, як якраз Немцам, каб натугі і ўвагу польскага народу ськіваваць на Ўсход. І такія германафілы, як сп. Цат-Мацкевіч, аддаюць ім тут не малую прыслугу. Вось што піша нямецкі часапіс «Ді Стіммэ» з 14. 2. г. г. ў артыкуле «Мутігэр Форштос» у вадказ Палякам, якія жадаюць утрыманьня Рыскай граніцы і потсдамскай: «Гэты водзыў ёсьць вельмі патрэбны, які толькі паказвае, што кіраўнікі польскай эміграцыі нічога не навучыліся, а іхная тэза жаданьня ад Расеі ўстанаўленьня старых граніцаў пры адначасным адмаўляньні (таго самага) Немцам, ня можа быць утрыманая».

Хто падлягае інсынуацыям утрыманьня вялікай і непадзельнай Расеі — той **спрычыняецца** да ўтварэньня «нямецкай сыстэмы» ў усходняй Эўропе, ёсьць іхным хаўрусьнікам. Будучыня Польшчы ляжыць не над Бярэзінай ці Днепрам — але над Одрай і Нісай, не на землях Ягелёнаў — але на землях Пястаў, ня ў форме зьлепу розных нацыянальнасьцяў — але ў форме зьлітнай каталіцкай, нацыянальнай дзяржавы. Хто гэтага не разумее, таму недахоп прымітыўных паняцьцяў з гэапалітыкі, эканоміі, а таксама сумленнасьці перад народамі, якія цягнуць тое самае ярмо, што і народ польскі. На шчасьце гэных мэгаляманаў ня ёсьць вельмі шмат, а да голасу прыходзяць іншыя, людзі адважна думаючыя і рэальныя палітыкі (напр. публіцыстыя зь «Дзеньніка Чыкаговскага» і зь лёнданскага часапісу «Ідзэмы»).

Бліжэйшая ёсьць нам Фэдэрацыя Сярэдня-Ўсходняй Эўропы, чымся «вялікая, недзялімая матушка Расія»; глеба для пасеву гэтае ідэі што раз паляпшаецца і ня змогуць яе апустошыць ніякія «незалежныя брашуры» ані зьнішчыць ніякія фантастычныя «кадраўкі палкоўнікаў».

Каб пасьпяхова абараніцца перад Немцамі, патрабуем так падтрыманьня Чэхаславаччыны і наддунайскіх дзяржаваў, як і Украіны; затое перасоўваючыся на ўсход па тых «50 тысяч» Палякаў, як абвяшчае за Дмоўскім сп. Гертых, забіраючы Чэхам Сьпіш і Араву — уводзім у сярэднюю Эўропу элемэнт ненавісьці, закалоту і неспакою, даём Немцам аргумэнты да змаганьня з намі, як зь недэмакратамі, і адкрываем ім дарогу на Сілезію й Памор'е. Вось гэтак выглядае праўдзівы бок «незалежнай палітыкі» сп. Гертыха».

Пазытыўная пазыцыя групы Мікалайчыка да пытаньня незалежнасьці Беларусі ў ейных этнаграфічных межах зьяўляецца для нас важнай і мерадайнай. Не падлягае сумліву, што гэтая група ў значнай, а можа і ў вялікай меры адлюстроўвае палітычныя настроі насельніцтва сучаснае Польшчы, што польскі народ на бацькаўшчыне ў сілу заіснаваўшай сытуацыі выразна эвалюцыянуе ў кірунку палітычннай канцэпцыі, на якой стаіць гэтая група. З другога боку, палітыка, рэпрэзэнтаваная групай Мікалайчыка, у сяньняшняй і будучай сытуацыі, у якой апынулася і Польшча і Беларусь, зьяўляецца адзінай рэальнай палітыкай, якую для собскага нацыянальнага інтарэсу могуць весьці два гэтыя суседныя народы. Калі палітыка ў дачыненьні да Беларусаў усіх іншых польскіх групаў аказалася нярэальнай і для Польшчы шкоднай у пэрыядзе між абедзьвюма сусьветнымі войнамі, дык яшчэ больш нярэальнай і яшчэ больш шкоднай ёсьць яна сяньня, а тым больш будзе такой у будучыні. Палітычная дасьпеласьць беларускага народу сяньня большая, ідэя дзяржаўнай незалежнасьці глыбей пранікла ў масы, а факт задзіночаньня беларускіх земляў хоць і ў фікцыйнай беларускай дзяржаве — БССР і хоць бязь беларускай Беласточчыны, як ніяк зьяўляецца фактам дакананым, які пры палітычна-дзяржаўнай перабудове падсавецкага Ўсходу ня можа быць ня ўзяты пад увагу.

Таму нярэальныя й анахранічныя маячаньні розных адценьняў лёнданскіх Палякаў аб польскіх усходніх граніцах з 1939 году, аб будучым падзеле Беларусі між Расеяй і Польшчай, ані іхная ігнаранцыя й нэгацыя беларускага нацыянальнага пытаньня не павінны нас лішне палохаць. Сярод самых Палякаў сяньня нараджаецца новая канцэпцыя польскай усходняй палітыкі, абапёртая на вымогах і законах рэальнай палітыкі. І ўсе тыя польскія групы, якія адмовяцца зрэвідаваць сваю дасюлешнюю палітыку і стаць на гэтую канцэпцыю, акажуцца ў сілу канечнасьці палітычнымі донкішотамі, г. зн. людзьмі няшкоднымі і ня небясьпечнымі.

**Язэп Каранеўскі**

# МЭМАРЫЯЛ

## аб бальшавіцкім гэносыдызьме над беларускім народам

### ЗЛОЖАНЫ КАМІСІІ АМЭРЫКАНСКАГА КАНГРЭСУ КЭРСТЭНА

Беларускі народ, які налічвае 18 мільёнаў насельніцтва ў сваіх этнаграфічных межах на тэрыторыі ў 380.000 кв. кілямэтраў, у сваей мінуўшчыні каля тысячы год карыстаўся самастойным дзяржаўным жыцьцём. Спачатку каля чатырох з палавінаю стагодзьдзяў (з 8 стагодзьдзя нашае эры да пачатку XIII ст.) на сучаснай тэрыторыі Беларусі існавала некалькі самастойных удзельных княстваў, буйнейшымі зь якіх зьяўляліся княствы Полацкае, Смаленскае і Турава-Пінскае.

У пачатку XIII ст. гэтыя ўдзельныя княствы ў сілу загражаючай ім небясьпекі з боку турэцка-татарскага находу задзіночваюцца ў вадну дзяржаву пад назвай Вялікага Літоўскага Княства. Гэтае Вялікае Літоўскае Княства, у склад якога трохі пазьней увайшлі ўсе сучасныя беларускія этнаграфічныя землі і сучасныя этнічныя землі летувіскія, праіснавала спачатку абсалютна, як сувэрэнная дзяржава, 330 гадоў — а потым 224 гады (з 1569 да 1873 г.) як фэдэрацыйная дзяржава з Польшчай.

Вялікаму Літоўскаму Княству прышлося перажыць шмат крытычных мамэнтаў ад прагрэсыўна ўзрастаючай агрэсіі з боку Расеі. Расея, вызваліўшыся (у 1494 г.) ад турска-татарскае няволі, пачынае сэрыю войнаў зь Вялікім Літоўскім Княствам з мэтаю падпарадкаваньня яго свайму панаваньню. На працягу двух стагодзьдзяў Беларусы знаходзіліся амаль у бесьперапынным стане вайны з Расеяй. Да 1772 году з прычыны агульнай складанасьці ўсіх войнаў з Расеяй Беларусам прыходзілася біцца на фроньце ў вабароне сваей тэрыторыі каля 150 год. Адна з найбольш доўгіх войнаў з Расеяй (ад 1561 да 1582 г.) асабліва аслабіла Вялікае Літоўскае Княства. Саюзная Вялікаму Літоўскаму Княству Польшча аказвала дапамогу скарэй маральную, чымся матарыяльную. Усе войны з Расеяй дзеля гэтага прышлося весьці галоўным чынам беларускаму народу, **як** народу, які тварыў аснаўное ядро Вялікага Княства.

У выніку нясумерна няроўных фізычных сілаў беларускага народу ў параўнаньні з Расеяй Вялікае Літоўскае Княства ў 1772 г. падлягае ампутацыі амаль палавіны тэрыторыі Беларусі на карысьць Расеі, а ў 1793 г. Расея падпарадкоўвае сабе амаль усе асталыя беларускія землі. Прылучэньне Вялікага Літоўскага Княства да расейскай імпэрыі пацягнула за сабой безадкладную ліквідацыю ўсіх дзяржаўных прэрагатываў Вялікага Княства і перамену яго ў звычайную правінцыю расейскай імпэрыі. Безадкладна пасьля гэтага наступілі рэпрэсіі у найбольш суровых формах усіх праяваў культурна-нацыянальнага жыцьця беларускага народу.

Беларускі народ на працягу чатырох стагодзьдзяў існаваньня сваіх удзельных княстваў і асабліва ў пэрыяд існаваньня Вялікага Княства Літоўскага на працягу 554 год, ня гледзячы на так частыя і працяжныя войны з Расеяй, пасьпеў стварыць сваю высокую на той час культуру й цывілізацыю. З гэтага пэрыяду дзяржаўна незалежнага жыцьця беларускага народу захаваліся да гэтага часу багатыя архівы-дакумэнты, якія сьветчаць, што Вялікае Княства Літоўскае зьяўлялася ня толькі тыпічна заходняй эўрапэйскай дзяржавай ,але й што яно зьяўлялася так-жа аднэй із перадавых дзяржаваў цэнтральнай Эўропы ў сэньсе культуры, цывілізацыі і дзяржаўна-дэмакратычнага ладу. Беларуская мова была ня толькі дзяржаўнай мовай у Вялікім Княстве Літоўскім, але ёю карысталіся й іншыя суседнія народы ў дыпляматычных дачыненьнях зь Вялікім Княствам. Беларусы былі трэйцім народам у Эўропе (пасьля Немцаў і Чэхаў), якія ўвялі ў сябе друкарства (у 1517 г), выперадзіўшы ў гэтым дачыненьні ўсіх сваіх суседзяў на дзесяткі гадоў, а Расею на 80 год. Культурныя ўплывы на Беларусь ішлі выключна з Захаду, так як на ўсходніх яго граніцах спачатку турська-мангольская акупацыя Расеі, а пасьля бесьперапынныя войны Беларусаў з Расеяй стварылі былі на працягу поўтысячы год свайго роду **зялезную заслону.**

Пасьля прылучэньня Беларусі да расейскай імпэрыі Беларусамі былі праведзеныя дзьве спробы аднаўленьня сваей сувэрэннай дзяржавы.

1. У 1811—1812 г., у час паходу на Маскву Напалеона, была створаная незалежная беларуская дзяржава пры падтрыманьні Напалеона, але з адступленьнем Французаў і паваротам Расейцаў Беларусь узноў была замененая ў правінцыю Расеі.

2. 10 красавіка 1863 году ў Беларусі ўспыхнула буйнага разьмеру паўстаньне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага і пад лёзунгам устанаўленьня незалежнай і сувэрэннай беларускай дзяржавы. Паўстаньне гэтае было ўзгодненае з паўстаньнем у Польшчы. У ваддзелах Кастуся Каліноўскага, згодна расейскіх паліцыйных дакладаў, налічвалася звыш 70.000 узброеных паўстанцаў на ўсей тэрыторыі Беларусі.

За год часу паўстаньне гэтае было здушанае, а правадыр гэтага паўстаньня Кастусь Каліноўскі 10 сакавіка 1864 году быў павешаны ў Вільні. Пасьля здушэньня паўстаньня расейскія ўлады завялі на Беларусі найбольш жахлівы тэрор, зьвязаны з многімі пакараньнямі сьмерцю і перасяленьнямі Беларусаў у Сібір.

У 1876 году забараняецца ўжываньне беларускае мовы ня толькі ў друку, адміністрацыі, школьніцтве, але таксама і ў царкоўна-рэлігійным ужываньні. Забарона ў друку беларускае мовы была адмененая расейска-царскім урадам толькі ў 1905 годзе ,але ў адміністрацыі, школьніцтве беларуская мова забаранялася аж да рэвалюцыі 1917 году.

Рэвалюцыя ў Расеі ў 1917 годзе застала Беларусаў у выключна няспрыяльных умовах. Нямецка-расейскі фронт з 1915 году да рэвалюцыі ўстабілізаваўся ў заходняй часьці Беларусі. Наводненая Беларусь многамільёнымі расейскімі войскамі, як прыфранотовы пояс, была спараліжаваная ўва ўсіх галінах культурнага й грамадзкага жыцьця. Ня гледзячы на ўсё гэта, беларускі народ пасьля паваленьня царскага трону і абвешчаньня прынцыпаў самавызначэньня народаў безадкладна прыступае да прыгатаваўчай работы дзеля стварэньня сваей незалежнай дзяржавы. Спантанічна паяўляюцца газэты ў беларускай мове, арганізуюцца розныя камітэты грамадзкага, культурнага і палітычнага характару. Менскі Нацыянальны Камітэт становіцца цэнтрам, які задзіночвае ўсе правінцыянальныя камітэты й арганізацыі, у тым ліку і беларускія арганізацыі вайсковыя, што ўзьніклі ў розных часьцях расейскае арміі.

### ПЕРШЫ ЎСЕНАЦЫЯНАЛЬНЫ БЕЛАРУСКІ КАНГРЭС

18 сьнежаня 1917 году ў Менску распачаўся Першы Ўсебеларускі Кангрэс, на які прыбыло выбраных дэмакратычным шляхам 1.872 дэпутатаў, што прадстўлялі ўсе правінцыі беларускіх этнічных земляў і ўсе палітычныя й партыйныя плыні Беларусі. Зь ліку 1.872 дэпутатаў было толькі 42 дэпутатаў камуністых-бальшавікоў на чале з матросам Крывашэінам. Склад беларускага нацыянальнага кангрэсу, які даў камуністым менш чымся палавіну працэнта галасоў, моцна занепакоіў бальшавікоў, якія ўжо былі захапілі ўладу ў Петраградзе, Маскве і ў правінцыях Расеі. Таму яны й накіроўваюць на Менск давераныя ім войскі.

30 сьнежаня 1917 г., г. зн. на 12-ты дзень працы Кангрэсу, 1882 галасамі супраць 50 прыймаецца рэзалюцыя аб стварэньні на беларускіх землях незалежнай беларускай рэспублікі. У гэты мамэнт, пасьля прыняцьця рэзалюцыі, раптам нападае на Кангрэс бальшавіцкая дывізія г. зв. сібірскіх стралкоў. Яны ўрываюцца ў памяшчэньне Кангрэсу (Менскі гарадзкі тэатр), у выніку чаго Кангрэс быў разагнаны сілаю, а некалькі сяброў прэзыдыюму Кангрэсу было арыштавана.

На другі дзень, 31 сьнежаня, дэпутаты Кангрэсу, за выключэньнем камуністых і некалькі арыштаваных, зьбіраюцца ўзноў (у ліку каля 1.700 дэпутатаў) для прадаўжэньня дзейнасьці Кангрэсу, гэтым разам у менскім чыгуначным дэпо. Праца Кангрэсу прадаўжаецца пад ахаронай чыгуначных служачых і работнікаў, якія загразілі бальшавіком генэральнай забастоўкай у выпадку паўторнага нападу на Кангрэс. Таго-ж дня, 31 сьнежання, Кангрэс выбірае із свайго складу 71 дэпутатаў і перадае ім аднагалосна **неабмажаваныя паўнамоцтвы Кангрэсу да часу скліканьня вольных выбараў у Беларусі.**

Выбраныя 71 дэпутатаў творацьсабой законадаўчы ворган, які пазьней атрымаў назоў Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. Старшыня Рады атрымлівае прэрэгатывы прэзыдэнта рэспублікі. Пасьля афармленьня выбараў заканадаўчага воргану дэпутаты Кангрэсу разьяжджаюцца дамоў, прыступаючы да арганізацыі мясцовых адміністрацыйных ворганаў. 71 сяброў Рады, у сілу заіснаваўшых абставінаў (нападу на Кангрэс бальшавікоў), пастанавілі праводзіць сваю дзейнасьць падпольна, зьбіраючыся на свае паседжаньні ў ваколіцах гораду Менску. Адначасна было даручана палкоўніку Езавітаву і штабскапітану В. Захарку (абодвы сябры Рады) падгатаваць збройныя сілы для ачысткі гораду Менску ад бальшавікоў.

19. лютага 1918 г. ў Менску ўспыхвае паўстаньне, кіраванае В. Захаркам і К. Езавітавам. Бальшавікі ў паніцы адступаюць за Менск больш чымся на 90 клм. Над Менскам павявае беларускі нацыянальны сьцяг.

21 лютага 1918 г. Рада выдае 1-ую законадаўчую грамату і выдзяляе із свайго складу першы ўрад рэспублікі пад назовам Народнага Сакратарыяту. Урад прыступае да арганізацыі мясцовых ворганаў і фармаваньня вайсковых частак. Але вызваленая ад бальшавікоў тэрыторыя Беларусі за тыдзень была акупаваная Немцамі. Нямецкія акупацыйныя ўлады раззбройваюць беларускія вайсковыя фармацыі, але да Рады і ўраду аднесьліся талеранцыйна. З далейшых перагавораў беларускага ўраду з урадам Вільгэльма II выясьнілася, што Немцы гатовыя былі-б вызнаць беларускі ўрад дэ юрэ, калі-б Беларусы згадзіліся рэарганізаваць рэспубліку ў манархію на чале з каралём, на якога Немцы прапанавалі прускага прынца.

Рада такіх умоваў прыняць не магла, дзеля чаго ў беларускага ўраду ўстанавіліся зь Немцамі такія дачыненьні: Немцы, ня вызнаючы беларускага ўраду дэ юрэ, лічыліся зь яго існаваньнем дэ факто, не дазваляючы толькі на занятай Немцамі тэрыторыі беларускіх вайсковых фармацыяў.

9 сакавіка 1918 году Рада выдае другую законадаўчую грамату, у якой абвяшчаюцца правы грамадзян Беларускай Народнай Рэспублікі і заклікаецца насельніцтва Беларусі да актыўнага ўдзелу ў справе будаваньня беларускае дзяржавы.

25 сакавіка 1918 году Рада ў трэйцяй законодаўчай грамаце абвяшчае фармальна аб анулявальні ўсіх міжнародных дагавораў, падпісаных расейскім урадам, якія датычылі тэрыторыі Беларусі й беларускага народу. Адначасна ў тэй-жа грамаце абвяшчаецца аб канчальным разрыве ўсякіх дзяржаўных сувязаў Беларусі з расейскай імпэрыяй. Урад Беларускай Народнай Рэспублікі паступова пачынаюць вызнаваць законным урадам многія сувэрэнныя дзяржавы. Дванаццаць эўрапэйскіх дзяржаваў да пачатку 1920 году вызналі ўрад БНР дэ юрэ, іншыя ўступаюць у дзейныя сувязі зь беларускім урадам, вызнаючы яго дэ факто.

Пачынаючы із сьнежаня 1918 году Немцы пачынаюць эвакуавацца зь Беларусі, у сьлед за якімі ўзноў навадняюць Беларусь бальшавіцкія дывізіі, што пасоўваліся на захад. Урад БНР, пазбаўлены Немцамі збройных сілаў, пасьпешна змог сфармаваць толькі некалькі дробных фармацыяў, затрымаць якім наступ бальшавікоў, зразумела, было немагчыма. Беларускі ўрад быў змушаны эвакуавацца ў саюзную Летуву, зь якой у Беларусаў быў падпісаны 15 лістапада 1918 г. дагавор аб узаемнай помачы. Бальшавікі, пераканаўшыся ў сільнай волі беларускага народу і ягоных жаданьнях мець сваю незалежную дзяржаву, абвяшчаюць у Смаленску 1 студзеня 1919 году таксама «незалежную» Беларусь у форме БССР (Беларускай Савецкай Сацыялістычна Рэспублікі), таксама як і Беларуская Народная Рэспубліка, у этнаграфічных межах.

(Заканчэньне на 4-ай балоне)

## „Партызаны у Беларусі гатовыя й чакаюць“

(Заканчэньне з 1-ай балоны)

цыямі, ён тут падаў канкрэтную аўтарытэтную, ледзь ня зь першай рукі, ацэну патэнцыялу партызанскага руху ў Беларусі. Ён, між іншым, гаворыць:

**«Абставіны для рэвалюцыі сяньня ня горшыя, як яны былі для Леніна, калі ён сядзеў у Швайцарыі ў 1917 годзе. Шмат ёсьць унутры (СССР) такіх, якія гатовыя да паўстаньня. Некаторыя зь іх на высокіх вайсковых становішчах. Партызаны ў Прыбалтыцы і Беларусі гатовыя й чакаюць. Але вы мусіце падтрымліваць гэты рух звонку»** — радзіць ён напасьледак людзям Захаду.

Гэты-ж саму Барлуцкі складаў 1 ліпеня сёлета перад Камісіяй Амэрыканскага Кангрэсу кангрэсмэна Кэрстэна ў Мюнхэне свае паказаньні аб усіх тых актах савецкага гэносыдызму, пра якія ён падаваў і ў заходняй прэсе. Як мы ў гэтым нумары газэты інфармуем на іншым месцы, калі адзін зь сяброў Камісіі запытаў, да чаго імкнуцца ўсе гэтыя рухі супраціву, ён адказаў, што ўсюды, дзе ён толькі быў, і на Каўказе, і ў Крыме, і ў Летуве — народы там змагаюцца за аднаўленьне сваей дзяржаўнай незалежнасьці. На пытаньне іншага кангрэсмэна, ці ня ведае ён падобных партызанскіх рухаў у іншых краінах, ён сьцвердзіў іх наяўнасьць асабліва ў **Заходняй Беларусі,** хаця дэталяў змаганьня беларускага народу падаць ня мог, бо там ягоныя часьці ня прыймалі ніякага ўдзелу ў каральных апэрацыях.

Сьветчаньні й інфармацыі палкоўніка Барлуцкага, пададзеныя высокапастаўленым чалавекам у герархіі МВД, які сам прыймаў актыўны ўдзел у многіх акцыях супраць нацыянальнага рэзыстансу і аб усім у гэтай галіне быў паінфармаваны зь першае рукі, зьяўляюцца найсьвяжэйшым бяссумліўным довадам, што Беларусь не пакарылася. Яна, хаця стогне пад крывавым ярмом бальшавіцкага тэрору, захавала аднак у сабе непераможную бунтарную сілу, якая ёсьць найлепшай зарукай нашай канчальнай перамогі.

**Ст. Крушыніч**

**Якуб Колас**

# Сымон Музыка

### ПАЭМА

(Працяг)

### III

Нікне ночка. Дзень чуць значна
Зь сьмехам ясным на вуснох
Ідзе зь ёю ў стэп няўбачны
І губляе ў глыбінох,
Цёмна-сініх і далёкіх,
Там, дзе зорачкі гарэць,
І дзе хмарак адзінокіх
Віхр ня сьмее заганяць.
Як той дзень за ночкай сьледам
Ходзіць кожную пару,
Шоў Сымон за старцам-дзедам,
Дзед — уніз, ён — угару.
Дзед слабеў і траціў сілы,
Круг жыцьця ён замыкаў
І ступаў на край магілы,
Хлопчык круг свой пачынаў.
Шлі яны ад хаты к хаце,
Зь вёскі ў вёску, з краю ў край,
У сярмяжках — латка ў лаце,
З адным толькі словам — дай!
І ў прыгодзе ўсё бывала:
Цісную холад іх, мароз,
Сьнегам вочы засыпала,
Вецер торбачкі іх трос,
Як шалёны, вый, сьмяяўся,
Біў у твар і з ног сьбідаў
Ды ў лахмоцьце забіраўся,
Шапкі зь іх галоў зрываў
І ганяў па сьнежным полі,
Злы, бязжаласны вар'ят.
І Сымонка, як ніколі,
Зазнаў горачка тут шмат.

Але хлопчык шоў пакорна,
Мерным крокам, як і дзед;
Сьцежка ўсюды ім прасторна,
Ім адчынен белы сьвет.
Ды што нам у тым прасторы?
Што нам шыр бязь берагоў,
Калі мы — чаўночкі ў моры
Безь вясёл, без жагялёў?
І арлу прастор ня мілы,
Хоць і волен яму пуць,
Калі ён ня мае сілы
Вольна крыльлямі ўзмахнуць
І ляцець, куды ён хоча —
У бяздоньне глыбіні,
Там, дзе ў хмарах гром ракоча,
Самі палаюць агні.
Неразлучны з скрыпкай-другам,
Хлопчык шоў, у сьнезе вяз,
А па хатах зь дзедам цугам,
Вочы ўзьняўшы на абраз,
Пеў жабрацкія літаньні,
У тон дзеду патрапляў
І дзядоўскія сьпяваньні
Ён на скрыпцы выйграваў;
І тады, як зрэдка сьпевы
Песень дзедавых сьвятых
Ціхім жаласьці павевам
Струн краналіся жывых,
Скрыпка раптам ажывала
І ўжо новым языком
Жаласьць сэрца выяўляла
І зьвінела пад смыком.
І тады вакол Сымонкі
Ўсе зьбіваліся цясьней,

4)

А дзядоўскія скарбонкі
Накладаліся паўней.
Грош завёўся ў дзеда ў латах —
Запамог Сымон яму...
Так па дворах і па хатах
Перакідалі зіму.

Надакучыла-ж зіміца!
Прыхадзі хутчэй, вясна:
Ты — крылатая зарніца,
Ты — прызыўная струна,
Ты — зязюлька-чараўніца.
Ты прыветна, ты ясна,
Гучнай радасьці паўна;
Ты — надзей і мар злучэньне,
Ты — гром песень, цішыня,
Ты — надзорнае імкненьне,
Ты — прастора-шырыня,
Ты — прыгожасьць-лятуценьне,
Ты — развага-глыбіня,
Усьмех радаснага дня.
Прыхадзі-ж, вясенька-радасьць,
Буйна росамі зазьзяй,
Хай твая краса дабра дасьць
І абудзіць гэты край!

І прышла яна, княгіня,
Пазганяла сьнег зь зямлі,
І дзе толькі вочы кіне,
Ажыўлялася пустыня,
Травы, красачкі расьлі.
А Сымонка нецярплівa,
Сам ня знаючы, чаму,
Ждаў вясеньку, ждаў, як дзіва,
І кляў холад і зіму.
І цяпер ён быў вясёлы,
Бо ён чуў, што ён жыве,
Што жыве зь ім лісьцік кволы;
Жыцьцё чулася ў траве,
У гаёчку, у лясочку,
На палёх, і на лугох,
І ў зялёненькім лужочку,
І ў крынічных берагох;

І ў душы бы штось сьпявала,
А пра што, душа ня знала —
Так сьпявалася само;
Чуў хлапчынка, што спадала
З шыі цяжкае ярмо.
Адзіноты, долі горкай, —
Сьвет хацелася абняць
І людзям бліскучай зоркай
І ўх цемрадзі зазьзяць
І сказаць ім, як шчасьліва
Можна жыць і на зямлі,
А яны ўсе — злы-маўклівы
І гняўліва-абурлівы,
З рубяжоў дабра зышлі.
Ён любіў і неба гэта,
Недасяжную глыб-сінь,
І бязьмежжа горных сьветаў,
І адвечную іх плынь.

Ідуць часам яны зь дзедам, —
Месца слаўнае, цяпло,
Час паўднёвы прад абедам.
— Э, куды наша ня шло, —
Кажа дзед: — прысядзем хіба? —
Хлопчык згодзен, хлопчык рад,
Хоць ня любіць дзеда-грыба:
Дзед залішне скупават,
Толькі цешыць абіцанкай,
А ня справіць халата,
І стары, а жыве зманкам,
Дзед — шалыга, шаланта.
А дзед сядзе каля дуба,
Кій паложыць на траву,
Люльку возьме ў рот бяззубы
І пахіліць галаву,
Ды пачне сваё казаньне,
Як павінен жыць Сымон,
Каб праз тое навучаньне
Лепш прыбраць яго ў палон,
Бо таму ня збыць пакуты,
Хто-б над старасьцю пакпіў.
— А скажы, дзядок: чаму ты
Мне халацік ня купіў?

# Зь беларускага жыцьця ў Вялікабрытаніі

**ПАЎСТАНЬНЕ ЦЭНТРАЛЬНА-ЎСХОДНЯЭЎРЭПЭЙСКАГА КЛЮБУ СТУДЫЯЎ**

Пасьля доўгай і салiднай падгатоўкі 23 травеня сёлета адбыўся Першы Агульны Сход Цэнтральна-Ўсходняэўрапэйскага Клюбу. У прасторнай залі Летувіскага Клюбу ў Лёндане сабраліся прадстаўнікі васьмёх паняволеных бальшавізмам народаў: **Беларусы** (7 чалавек), Харватаў, Чэхаў, Палякаў, Украінцаў, Мадзяраў, Славакаў, Летувісаў. Было таксама шмат гасьцей Ангельцаў.

Ад імя ініцыятыўнай групы зборку адкрыў др. Лёхэр (Чэх). Вітаў ён горача ўсіх прысутных, пасьля коратка выясьніў мэту Сходу. Гэтай мэтай было: заснаваньне Клюбу Студыяў, які павінен стацца супольнай плятформай студыяў і дыскусіяў аб жыцьці народаў, сяньня паняволеных камунізмам. Клюб ня мае ніякага палітычна-партыйнага характару. Ён мае абняць усіх тых, што змагаюцца супраць камунізму, незалежна ад таго, хто і да якой палітычнай групы належыць.

Далей праходзіла зборка згодна з прадбачаным плянам: дыскусія й прыняцьце статуту Клюбу, выбары ўправы, плян працы і бюджэт. Вельмі жывой была дыскусія над статутам, які ў канцы з папраўкамі быў прыняты.

Падаем тут § 4 статуту, у якім гаворыцца аб мэтах Клюбу:

а) студыі, дыскусія і прапаганда міжнароднай, палітычнай і сацыяльнай праграмы, якая прыймае за базу актыўнае ўжыцьцяўленьне навукі Хрыста ў жыцьці народаў. Клюб асаблівую ўвагу зьвяртае на тое, каб паўстала праўдзівае паразуменьне і супрацоўніцтва паміж народамі, паняволенымі камуністычнай дыктатурай.

б) прыгатаваць салідны фундамант для супольнага міжнароднага пляну ў сувязі з супольным змаганьнем за свабоду і нацыянальную незалежнасьць.

в) прыгатаваць будучае міжнароднае супрацоўніцтва, апіраючыся на справядлівасьць і хрысьціянскую этыку.

У Галоўную Ўправу Клюбу былі выбраныя: за старшыню др. К. Лёхэр (Чэх), за заступніка старшыні — па аднаму ад кажнай нацыянальнасьці, за сакратара — інж. Сьцібор-Рыльскі, рэдактар «Ідземы» (Паляк) і за скарбніка **др. В. Рамук (Беларус).** У Наглядную Раду былі выбраныя: адзін Чэх, адзін Беларус і адзін Украінец.

Астаецца пажадаць, каб добра распачатая праца Клюбу прынесла запраўднае супрацоўніцтва народаў і прыгатавала супольную плятформу для змаганьня з камунізмам, супольным ворагам усіх народаў.

**ДЗЕНЬ МАТКІ**

30 чэрвеня сёлета беларуская калёнія ў Лёндане абходзіла ўрачыстасьць прысьвечаную нашым дарагім маткам.

Праграму ўдала ўлажылі арганізатары Дня Маткі др. В. Рамук і сп-ня Вера Бартуль. Яны таксама дапільнавалі ейнага выкананьня. **Сьвятая Літургія ў** Марыян Гаўз, пасьля даклад сп-ні Касі Вініцкай, дэклямацыі найлепшых беларускіх твораў прысьвечаных маці, беларускія песьні й прынагодныя разрыўкі занялі блізу цэлы дзень. Была таксама праведзеная зброка грошаў на газэту «Бацькаўшчына».

Жывучы тут у вольнай краіне і бачучы, як непараўнальна лепш жывуць ангельскія маткі ад беларускіх, не аднаму ўдзельніку ўрачыстасьці сьляза сплыла ад жалю сваіх дарагіх матак.

Не сабраліся мы аднак, каб толькі плакаць. Кажны з нас зрабіў моцную пастанову, што будзе змагацца за лепшую долю беларускай маткі. Кажны з нас разумее, што сяньня найбольшай перашкодай да шчасьця нашых матак на Беларусі зьяўляецца камунізм, а таму ўся наша энэргія павінна зьвярнуцца супраць яго.

**З ЖЫЦЬЦЯ ЗБВБ**

Пасьля Агульнага Зьезду ЗБВБ, які адбыўся, як ужо паведамлялася, 1 і 2 травеня сёлета, праца гэтай найвялікшай у Вялікабрытаніі беларускай арганізацыі пайшла звычайным шляхам. Блізу ўва ўсіх Аддзелах ЗБВБ, якіх налічваецца пяць, адбыліся гадавыя зборкі із справаздачамі зь дзейнасьці і перавыбарамі ўправаў. У Аддзеле Кэмбрыдж у сувязі з гадавой сходкай быў прачытаны такжа даклад др. В. Рамуком, сябрам Галоўнай Управы ЗБВБ, на тэму «Беларуская эміграцыя ўчора й сяньня». Аддзел Манчэстар распачаў зборку грошаў і фармальныя стараньні дзеля куплі собскага Беларускага Дому. Хаця ЗБВБ ня мае вялікіх ашчаднасьцяў, аднак дзякуючы надзвычайнай ахвярнасьці сяброў манчэстэрскага Аддзелу, купля трэйцяга ўжо беларускага дому ў Вялікабрытаніі стаіць на добрай дарозе.

ЗБВБ зьяўляецца адным із закладчыкаў Цэнтральнага Каардынацыйнага Камітэту Арганізацыяў Самапомачы ў Вялікабрытаніі, які паўстаў у 1948 г. Хаця гэты Камітэт шмат папрацаваў для справы ўцекачоў, аднак мала быў шырэйшым колам чужынцаў ведамы. У гэтым годзе дзякуючы энэргічнай ініцыятыве дэлегата ЗБВБ ў Каардынацыйным Камітэце было пастаноўлена прыступіць да выдаваньня друкам супольнага бюлетэню ў ангельскай мове. Першы нумар бюлетэню выйшаў у канцы травеня сёлета. Сярод 12 рознанацыянальных арганізацыяў, дзейнасьць якіх коратка апісаная ў бюлетэні, мы знаходзім і артыкул аб ЗБВБ і ў канцы яго адрас. Сябрамі Каардынацыйнага Камітэту ёсьць Расейцы, Палякі, Югаславяне, Баўгары, Чэхі, Летувісы, Латышы, Эстонцы, Славакі, Беларусы, Мадзяры, Украінцы і Румыны. Гэты Камітэт у Вялікабрытаніі ёсьць, здаецца, адзіным, дзе столькі народаў супрацоўнічае для дабра ўцекачоў. Дэлегатам ад ЗБВБ у Каардынацыйным Камітэце ёсьць а. Ч. Сіповіч, Міжнародныя зборкі сяброў Каардынацыйнага Камітэту між іншым часта адбываюцца ў Беларускім Доме ў Лёндане.

**ЗЬ ДЗЕЙНАСЬЦІ БАКА «РУНЬ»**

Тут падамо толькі пару больш характэрных фактаў. Што датычыць дзейнасьці Галоўнай Управы і лёнданскай групы, у гэтым годзе яна праходзіла пад знакам міжнародным. Адбыліся тры супольныя зборкі сяброў «Пакс Романа», арганізатарамі якіх было ангельскае задзіночаньне «Ньюмэн Асосыейшэн». На ўсіх гэтых зборках сябры «Руні» прыймалі актыўны ўдзел. Адзін раз далі невялікі канцэрт беларускіх песьняў, іншым разам а. Ч. Сіповіч чытаў даклады. Адзін даклад быў прысьвечаны пытаньню рэлігійнага жыцьця Беларусаў, а другі гісторыі бізантынска-славянскай музыкі.

9 травеня падобную зборку, як «Ньюмэн Асосыейшэн», ладзіла польскае акадэмічнае таварыства «Вэрытас», дзе сябры «Руні» разам зь іншымі нацыянальнасьцямі прынялі ўдзел.

20 травеня БАКА «Рунь» мела вялікі гонар гасьціць у сябе вялікую колькасьць сяброў розных акадэмічных арганізацыяў розных нацыянальнасьцяў. Айцец Ч. Сіповіч меў для ўсіх сьв. Літургію і сказаў казаньне на тэму хрысьціянскага паняцьця міру. Пасьля маленькага перарыву, падчас якога госьці маглі перакусіць, адбылася зборка з двума дакладамі: першы прачытаў др. В. Рамук на тэму «Паўстаньне і дзейнасьць БАКА «Рунь», другі прачытаў сп. Язэп Пазьняк на тэму «Школьная сыстэма ў савецкай Беларусі». Гэты даклад быў вельмі добра апрацаваны і таму ня дзіва, што выклікаў вялікую дыскусію. Былі закранутыя наступныя праблемы: рэлігійнае жыцьцё ў сучаснай Беларусі пад бальшавікамі, сацыяльныя пытаньні, дачыненьне Беларусаў да Расейцаў і інш. Бяссумліву гэтая зборка была вельмі ўдачнай. Вонкавыя абставіны спрыялі так-жа арганізатарам: прыгожы сонечны дзень, спакойная і багатая зелень у гародзе Марыян Гаўз, гасьціннасьць Беларусаў — усё гэта затрымала гасьцей аж да вечара.

Агульны 8-мы Зьезд «Пакс Романа» адбудзецца ў гэтым годзе на пачатку жніўня ў Лізбоне і Фатыме. БАКА «Рунь» прыйме ў ім удзел праз сваіх дэлегатаў.

Тыдзень Студыяў БАКА «Рунь» — чацьвёрты з чаргі — адбудзецца ў гэтым годзе ў Рыме ад 29 верасьня да 5 кастрычніка. Усе жадаючыя прыняць у ім удзел павінны скамунікавацца загадзя з Галоўнай Управай «Руні». Там-жа ў Рыме адбудзецца й Агульны Зьезд «Руні».

**а. Ч. Сіповіч**

# Пісьмо адмірала Стывэнса

Старшыня Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня ад Бальшавізму прыслаў у Рэдакцыю «Бацькаўшчыны» наступнае пісьмо із датаю 16 чэрвеня 1954 году:

**Рэдактару «Бацькаўшчыны»**
**Гэрцог-Рудольфштрассэ 49/III**
**Мюнхэн 22, Нямеччына.**

Беларуская эміграцыйная газэта («Народным Шляхам», Торонто, Канада), якая зьяўляецца варожай да праваднiцтва Беларускай Нацыянальнай Рады, падала да ведама, што Амэрыканскі Камітэт абяцаў даць сп. Зарэчнаму пэўную суму грошай для арганізацыі кангрэсу беларускай эміграцыі, калі ён выскажыцца за супрацоўніцтвам з Амэрыканскім Камітэтам.

Зьяўляецца неабходным асьветчыць, што падобнае абяцаньне ня было даванае і што ніякія перагаворы ў справе беларускага кангрэсу ня мелі месца паміж сп. Зарэчным і прадстаўнікамі Амэрыканскага Камітэту.

Зь вялікай пашанай да Вас

**Лесьлі С. Стывэнс**
**Прэзыдэнт.**

# На Выдавецкі Фонд Беларускае Кніжкі

**Абвешчаны Выдавецтвам «Бацькаўшчыны» збор складак на Выдавецкі Фонд Беларускае Кніжкі й праводжаны цяпер нашымі прадстаўнікамі ўва ўсіх краінах расьцяленьня Беларусаў не абмяжваецца да аднаго толькі месяца ліпеня, але расьцягваецца яшчэ на два наступныя месяцы — жнівень і верасень. Павялічэньне тэрміну збору складак на падпісныя лісты робіцца з тэй мэтай, каб усім зьбіральнікам даць магчымасьць зьвярнуцца за складкай даслоўна да кажнага Беларуса, а кажнаму суродзічу стварыць нагоду гэтую складку даць.**

**Мы яшчэ раз хочым падчыркнуць вялікае нацыянальнае значэньне забясьпечаньня нашых суродзічаў на чужыне хоць мінімальнай колькасьцю кніжкамі нашага найлепшага прыгожага пісьменства, чытаньне й перачытваньне якіх зможа прыпомніць дарагую для іх Бацькаўшчыну, выклікаць найжывейшае ейнае ўяўленьне ў іхных выабражэньнях і пачуцьцях, даць ім неабходную духовую страву, безь якой ня можа жыць ніводзін поўнавартасны чалавек. Цяжкае й адказнае заданьне — стварыць такія ўмовы і ўзяло на сябе Выдавецтва «Бацькаўшчыны», якое ў гэтай галіне мае ўжо не малыя вынікі й намагаецца мець іх яшчэ большыя. Абавязкам-жа нашага грамадзянства памагчы Выдавецтву матарыяльна, без чаго заданьне гэтае выкананым быць ня можа.**

**Уся сыстэма арганізацыі такой дапамогі пабудаваная так, што фактычна ніхто не дае беззваротнай ахвяры, але толькі складку, у вышыні якой кажны зможа атрымаць сабе выбраныя ім кніжкі, ужо выдадзеныя, як і тыя, што яшчэ выйдуць.**

**У сувязі зь вялізарнай нацыянальнай важнасьцю гэтае справы, як і з тым, што ніхто нічога не дае задарма, а толькі купляе ці падпісваецца наперад на гатовыя кніжкі, кажны Беларус можа лёгка выканаць гэты сьціплы свой грамадзкі абавязак і спрычыніцца да разьвіцьця нашай выдавецкай справы. Дык не павінна быць ніводнага Беларуса, які ня даў-бы сваей складкі на Выдавецкі Фонд Беларускае Кніжкі.**

**ВЫДАВЕЦТВА «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»**

# Маурцы Гіндус і Панцялейман ПанамарЭнка

**(Заканчэньне з 4-ай балоны)**

«— Ягонае запраўднае імя ёсьць не Качалаў, а Швярубовіч, гэта беларускае імя і ён паходзіць зь Беларусі» — казаў Панамарэнка. І далей запытаў:

«— А ці Вы бачылі генэрала Ракасоўскага?»

«— Так, я бачыў яго ў Любліне...»

«Яго матка была Беларускай» — казаў Панамарэнка. Ён не паўнакроўны Паляк. — «А ці чулі Вы пра польскага паэту Адама Міцкевіча?

«— Ведаю» — адказаў Гіндус.

«— Ён таксама нарадзіўся на Беларусі, у Навагрудку, і ягоная найлепшая паэма „Дзяды" пабудаваная на беларускім фальклёры» — казаў Панамарэнка.

Гэтыя й іншыя словы вельмі зьдзівілі Гіндуса, што такі бальшавік, як Панамарэнка, ведаў усім ведамую праўду за выключэньнем хіба самога «экспэрта» ад справаў Расеі Маўрцы Гіндуса! Але гэта яшчэ ня ўсё. Найбольшай навінай для аўтара была ведамка, якую ён атрымаў ад нейкага Расейца назаўтрае ў гатэлі, што Панамарэнка ня ёсьць Беларусам, але Кубанскім казаком. Гэтае апошняе «адкрыцьцё», якое даканаў Гіндус толькі ў 1944 годзе, гаворыць само за сябе...

Кніга пачынаецца «філязафічнай» сэнтэнцыяй беларускага селяніна, якую Гіндус пачуў у 1939 годзе ў вадной зь беларускіх вёсак, калі падарожнічаў у той час па Беларусі. Таксама знаходзім некалькі намёкаў пра нашае жыцьцё, якое, — як аўтар сам піша — быццам вельмі добра ведае. Таксама ўспамінаецца й беларуская эміграцыя ў Нью Ёрку і яе арганізацыі, якія існавалі ў 1945 годзе.

Агульна бяручы, гэты твор шмат розьніцца ад папярэдніх і трэба думаць, што наступныя (пасьля таго, як Гіндус быў названы зраднікам на працэсе Сланскага) будуць яшчэ лепшыя. А каб пра нас у іх было сказана дакладна, трэба каб сучасныя беларускія арганізацыі ў Нью Ёрку выканалі сваю місію беларускіх амбасадаў на 100 працэнтаў.

**Мікола Вярба**

Тэй вясны, пары шчасьлівай,
Покі ў сьвеце будзе жыць!
То было нейк у суботу.
Слаўны выдаўся дзянёк!
Моцна парыла, а потым
Стаў павейваць вецярок
Ды густы, падуў з заходу
І засьценьваў неба край.
— Будзе найкая прыгода,
Ходу, хлопча, падбаўляй —
Ці ня пройдзе дождж, глядзі ты:
Млявасьць чуецца, цяжар;
Так і спаў-бы, як забіты,
І так парыць, такі вар,
Што насілу цягнеш ногі,
Хоць лажыся дзе пад плот. —
Дзед з Сымонкам шлі дарогай
Між палёў у свой абход.
— А ўжо сонца нявысока,
Ня мінуць-бы хутароў.
Бачыш ты іх? Ці далёка?
— Тут, дзядок, няма двароў, —
Паглядзеўшы, хлопчык кажа.
Зноў маўчком яны ідуць;
А на захадзе, як сажа,
Хмары цёмныя ўстаюць,
І варушацца клубы іх,
Як жывыя,
Палавыя
І сівыя,
Нібы голавы на шыях
Нейкіх волатаў дзіўных,
З багна неба насланых,
Ды, як зьмей многагаловы,
Нацiскаюцца цяжэй;
Глушыць землю шум іх мовы,
І выкоўвае ім словы
Гром выразьней і мацней.
Ідзе хмара. Бліскавіца
Палыхаюць і гараць.
Сам пярун там грозналіцы
Перашоў зямлі граніцы
І вядзе над ёю раць.
Лук яго з маланак зьвіты;
Хмара — шчыт, а стрэлы — гром
Бура — конь многакапыты;
Ён віхрамі апавіты,
Неба ўсё яму шатром.
І ўсё ніжай і ўсё ніжай
Абвісае хмар страха,
І ўсё грозьней ды ўсё бліжай
Гром, зачаўшыся сьціха,
Забушуе, бухне ў боры
Гукам-грукатам пярун
І пагоніць гуды ў горы,
Гне лясы, гудзе лясун,
Як гудзе струна гітары.
Пазіраў Сымон на хмары.
Што-ж яны там выраблялі!
Як клубіліся яны!
Як маланкі іх аралі!
Як трасьлі іх пяруны!
— Дарма выбраўся ў дарогу.
Дзе-ж схавацца нам цяпер?...
— — — — — — — — — —
— — — — — — — — — —
Дзед ісьці хутчэй стараўся
І Сымона падганяў,
Шоў, на момант прыпыняўся,
Хаты поглядам шукаў.
— Ну, грымоты, ай, грымоты!
І ўвальле-ж нам, ого-го!...
— А скажы, дзядок: чаго ты
На гром хрысьцішся? чаго?
Толькі блісне бліскавіца,
Ты і хрысьцішся? Чаму?
— Ты, Сымон, яшчэ дурніца,
І тлумач усё яму.
А затым, каб злога духа
Гэтым крыжам адганяць!
Як-жа гэтага ня знаць?
Каб ня лез злы дух, псяюха,
Бо Ільля яго, паганца,
Лупіць стрэламі грамоў,
Разьяжджаючы ў маланцы
Над зямлёй між аблакоў;
Вось ён схованкі шукае
Пад хрышчонаю душой,
Бо па сьвеце чорт блукае,
Каб нарабіць бяды зь ёй. —
Хлопчык слухаў у зьдзіўленьні,
Вочы кідаў на карчы,
А ў пужлівым уяўленьні
Ўсталі чэрці-рагачы.
Унь на дзераве зь бярозы
Рожкі вытыркні і хвост,
Штосьць пабегла там у лозы,
Нешта скокнула пад мост.
А што там у пні за дзіва?
Вушы, нос і капыток...
Ну, напэўна там чарток
Прытаіўся палахліва.
А па хмарах на маланках
Громы кідае Ільля,
Аж калоціцца зямля,
Цёмна стала на палянках.
— Дзедка, бачыш, унь сядзіба,
Па-над лесам хутарок!
— На ачосы пойдзем хіба,
Ды хутчэй, хутчэй, сынок. —
Са шляху яны зьвярнулі,
Нацянькі ідуць мяжой.
Хмары-ж неба апранулі,
Даль закрылася імглой.
Як жывое срэбра, важка
З хмар пярэдніх дождж упаў;
За маланкай сьледам цяжка
Гром страшэнны загучаў.
І, здалося, ня стрымала
Хмара цяжару грамоў,
Раптам ставы разарвала,
Нібы лёд рака ўзламала
І пабегла зь берагоў.
Сьлепяць вочы бліскавіца,
Бура, громы, навальніца,
Па зямлі бягуць крыніцы...
Вайшлі ў хату дзед з Сымонам,
Чэсьць далі гаспадаром,
Старасьвецкім «пахваленым»
Прывіталі гэты дом.
Стаў Сымонка каля лавы,
Хату поглядам абвёў,
А халацік бязрукавы
Цёк у дзесяць ручаёў.
Загарэў, бядак, ад сонца,
Твар лушчыўся і ліняў,
І мізэрна так бясконца
Гэты хлопчык выглядаў!
Толькі вочкі асьвячалі
Твар замораны, худы
І так многа прыдавалі
Хлопцу гора і нуды.
І было ў іх задумленьне
Не дзяцiных яго лет,
І адбітак засмучэньня
Палажыў на вочы сьлед.
І той погляд раз даволі
Хоць на момант улавіць,
Каб ужо яго ніколі
Назаўсёды не забыць,
Бо жыцьцё прашло няскладна
Па дзяцінай паласе, —
І на хлопчыка ўспагадна
Пазіралі тут усе.
— Што, дзядуля: гэны блазан
Твой табе, чужы, ці як?
— Не, панюхна, не сваяк, —
Так нядоляй са мной зьвязан.
— А радню-ж якую мае,
Ёсьць бацькі, ці сірата? —
Хлопчык вочы апускае,
Падаецца ў бок кута.
— Як сказаць вам? зьбег ён з дому!
Выгнаў бацька яго вон.
Што-ж было рабіць малому?
І са мною ходзіць ён. —
Тут на хлопца вочы строга
Сам уськінуў гаспадар.
— Бацька выгнаў? бойся Бога!
Эгэ, ты, відаць, штукар!

